Год II. — № 17. Пятніца, 29-га красавіка (апрэля) 1921 г. Цана нумару 6 марак.

# НАША ДУМКА

ПАЛІТЫЧНАЯ, ЭКАНАМІЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ТЫДНЁВАЯ ГАЗЭТА.

У газэце супрацоўнічаюць: НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА, Г. Б., ГЕННАДЗІЙ БОГДАНОВІЧ, ВІЛЯНЧУК, МАКСІМ ГАРЭЦКІ, А. ДМАХОУСКІ, АЛЕСЬ КАБЫЧКІН, КРАУЦОУ МАКАР, ДЗЕД КУЗЬМА, М. К-Ч. А. МСЬЦІСЛАУСКІ, ІВАН МЯЛЕШКА, АНТОН НАВІНА, АДАМ САЛАДУХ, КАЗІМІР СВАЯК, СТАНІСЛАУ ЧЫЖЭУСКІ і інш.

Адрэс рэдакцыі і канторы: Вільня, Вострабрамская, 9.

Цэны абвестак: за адзін радок самага дробнага друку на апошняй страніцы 10 польскіх марак.

Падпіска: на 3 месяцы 100 польскіх марак або 5 хунтаў мукі.

## Правакатар.

Як мы даведаліся з самай пэўнай крыніцы, 24 красавіка, у нядзелю, адбыўся конспірацыйны сход невядомых нам „беларусаў“, на якім вядомы кваліфікаваны злодзей, пасылаўшы у свой час „вѣрноподданническія“ тэлэграмы Вільгельму, а потым скраўшы даручаныя яму 600.000 польскіх марак, выступіў з прапазіцыяй зрабіць заходы, каб зачыніць беларускую газэту „Нашу Думку“, скінуць каго яму трэба з займаемых пасад і наогул развaліць беларускую справу, каб потым захапіць кіраваньне ею у свае брудныя рукі.

Пабачым, ці удасца гэтаму пану правакацыйная яго праца?

## Сьвята Працы.

У нядзелю — дзень 1 мая.

Дзень вялікага **Сьвята Працы.**

Соткі мільёнаў тых, што праз усенькі год, сагнуўшы сьпіны, стаяць пры фабрычнай машыне ці вядуць баразну на зьдзірванелай ральлі, соткі мільёнаў працаўнікоў, над якімі ўвесь год грозна паднімае свой акрываўлены бізун уладар сьвету— **Капітал,** — у гэты веснавы дзень горда паднімаюць свае галовы, распрастоўваюць плечы, і з вольна дыхаючых грудзей іх нясецца магутны кліч:

**„Працавітая бедната ўсіх краёў, злучайся!“**

І б‘юцца ў адзін такт сэрцы рабачаяў, калі ў сталіцах сьвету, ў вялікіх цэнтрах прамысловасьці Эўропы і Амэрыкі і ўсіх часьцін зямлі яны стройнымі радамі выступаюць на вуліцы пад сваім сьвятым знакам — **Чырвоным Штандарам.**

Чырвоны Штандар! Колькі разоў варожныя сілы сустракалі Цябе градам куль і салдацкімі штыхамі! Колькі крыві народнай усякла ў Тваё падзертае палатнішча!...

Быў час, калі кожнае вольнае выступленьне работніцкіх мас вымагала нялічаных ахвяр. Многа байцоў за вызваленьне **Працы** вырывала сьмерць з радоў работнікаў. Але іх кроў не пралівалася дарэмна: на месца аднаго забітага героя станавіліся дзясяткі, соткі, тысячы. Работніцкі рух усё рос і крапчэў, ажно дарос да таго, што пасягнуў не на частку ўлады для працоўнага народу, а на ўсю ўладу.

Ды крэпка й моц Капіталу. Паміж гэтымі дзьвёма сіламі йдзе барацьба на ўсенькім сьвеце. Але, чым далей, тым больш ясна, што будучына прыналежыць работніку і хлебаробу, што пабеда дастанецца ім!

Гэта вера ў канчальную пабеду Працы над Капіталам павядзе і сёлета работніцкія масы пад Чырвоным Штандарам, з песьняй волі на вустах — на вуліцы мест. У гэты дзень павінны сьціхнуць у сэрцах народаў узаемная ненавісьць, гнеў, жаль. Вялікая супольная мэта многамільённае арміі Працы павінна абаднаць работнікаў і сялян усіх краёў і народаў.

Хай-жа сьціхнуць сваркі і нацыянальная барацьба і паміж сынамі нашае Бацькаўшчыны. Хай усе грамадзяне Краю — беларусы і літвіны, палякі і жыды, — ўсе, хто цяжскай працай здабывае сабе кусок хлеба, — хай дадуць яркі доказ сваей солідарнасьці, сваей аднадумнасьці. Хай прымуць учасьце ў вялікім Сьвяце Працы, хай і свой голас далучаць да згоднага хору пролетарыяту ўсяго сьвету, хай панясуць і свой Чырвоны Штандар, напісаўшы на ім волю нашых працоўных мас:

**Права на працу і поўны плён яе— работнікам!**

**Права на зямлю — сялянам!**

**Незалежнасьць — Бацькаўшчыне!**

**Улада — працоўным масам!**

**А. Н.**

## Маўчаць-згаджаюцца.

Беларускі народ праз некалькі апошніх вякоў быў пад уладаю аднаго ураду чужога народа; быў час, калі Польшча мела валізарны ўплыў на беларускія вярхі; час гэты мінуў, і маскалі заселі на землях крывічоў і радзімічоў. Настала вайна, пахіснуўся царскі трон, пахіснулася ўлада, расейцаў над другімі народамі; настала рэвалюцыя і сусім скінула як трон, так і панаваньне чужынцаў. Беларусь, як і другія паднявольныя народы, адразу голасна заявіла ўсяму сьвету, што яна сама ў сябе хоча быць гаспадаром, аб чым яе найлепшыя сыны выдалі адпаведную грамату. Аднак, ворагі не пашанавалі волі Беларускага народа.

Пасьля Рыжскага міру часьць Беларусі папалася пад Польшу, часьць атрымала фікцыйную незалежнасьць і часьць асталася пад Расеяй. Як бачым, ува ўсіх частках Беларусі істнуе амаль ні адна сыстэма вынародаўленьня беларускага Народа. Як калісь расейцы ў згодзе ішлі з немцамі, усьміраючы паўстаньня палякоў, так цяпер ужо Польшча Рыжскім трактатам пашла з Расеяй, дзелячы Беларусь і ўсюды перашкаджаючы беларускаму народу жыць сваім нацыянальным жыцьцём, не гаворачы ўжо аб жыцьці палітычным.

Параграф 87 Вэрсальскага трактату, між іншым маець: „Граніцы Польшчы, каторыя ня значацца ў гэтым трактаце, будуць устаноўлены пазьней Галоўнымі Запрыязьненымі і Схаўрусаванымі Дзяржавамі“; узноў у § 18 статута Лігі Народаў так сама бачым: „Кожны дагавор, або міжнародная ўмова, заключаная ў будучыне сябрам Лігі, мусіць быць зараз-жа зарэгістравана ў Сэкрэтарыяце, і як найхутчэй ім абвешчана. Ніводзін такі дагавор, або міжнародная ўмова ня будзе мець абавязуючай сілы перад зарэгістраваньнем“.

Вось з гэтых двух пунктаў відаць, што рыжскі мірны трактат, падпісаны Польшай і Расеяй, павінен будзе пайсьці на перагляд да Злучаных Дзяржаў. Пакуль што Заходнія Дзяржавы нічога афіцыяльнага не агаласілі ў гэтай справе, хаця Францыя авансам у дагаворы з Польшчай ад 20 лютага г. г. пастанавіла прызнаць Рыжскі трактат. Вось, апіраючыся на гэта, эндэцкая польская прэса ужо цешыцца з таго, што граніца на ўсходзе будзе прызнана заходнімі Дзяржавамі; ёй усё здаецца, што калі Антанта згодзіцца на гэту граніцу, дык усё будзе ў парадку, і яна сьмела пойдзе пашыраць польскасьць у прырэзанай часьці Беларусі. Праўда, ужо цяпер, калі яшчэ няма ніякага юрыдычнага права на землі з чужым і другім народам, польская Кансэрвацыя вельмі старанна праводзе сваю палітыку на „Крэсах“, нягледзячы зусім на недалёкую мінўшчыну і непрадбачучы блізкай будучыны. Відаць, польская рэакцыя замала адчувала на сабе ярмо Маскоўшчыны і Нямеччыны, дзеля таго зусім не разумее нацыянальнага пачуцьця другіх народаў, якія яшчэ ня здужалі скінуць з сябе усіх сваіх ворагаў; зусім не разумее таго, што ёй ня ўдасцца „пагасіць праўды яснай“, ня удасцца прышчапіць другую культуру народу, маючаму сваю прошласьць і гісторыю.

Мы бачым, што тыя, якія будучы паднявольнымі учора крычалі аб свабодзе, аб вольнасьці і роўнасьці ўсіх народаў, самі атрымаўшы яе (можа для іх на‘т і неўспадзеўкі) пашлі сьледам за сваімі былымі ўладарамі, захацелі самі пабыць у ролі уладароў, захацелі спрактыкаваць, пачуць прыемнасьць перахрышчываючы народ, прывіць яму свае думкі, сваю мову, культуру, каб пасьля (як польскі міністр Скульскі сказаў—*праз 50 гадоў*) увесь край можна было сьмела назваць польскім, а ня «крэсамі», а народ-палякамі, а ня тутэйшымі, як гэта яшчэ цяпер у іх называецца.

Адгуку на гэта усё мы яшчэ ня бачым у загранічнай прэсе. Прэса загранічная яшчэ незразумела мэты адраджаючыхся народаў на усходзе. Заходнія Запрыязьненыя Дзяржавы маўчаць-згаджаюцца. Мо ня бачуць гэтага, а калі і бачуць, дык, мусіць, нічога ня могуць на гэта зрабіць...

**Адам Вітт.**

## «Krупіса» аб сучасным мамэнце.

(*Перадавы артыкул з астатняга нумару*).

Мір між палякамі і бальшавікамі падпісаны і прызнаны, а ліцьвіны з палякамі маюць таксама хутка паразумецца. Так выглядае тутэйшая палітыка на паперы. Але гэта так запраўды толькі на паперы. Праўду кажучы, міру няма і яго быць ня можа, калі яго шчыра не жадаць.

Мір бальшавіцка-польскі усю заходнюю Беларусь аддаў Польшчы. І вось у гэтай беларускай частцы люднасьць наша аддана на ласку і няласку мясцовай польскай жандармерыі і адміністрацыі, якая блізу вылучна складаецца з паноў. Адносіны гэтых людзей да беларускай люднасьці найгоршыя, а да беларускага руху саўсім нягодныя. Напрыклад у Дзісьненскім, беларускім, павеце беларусам як такім жыць ані троху не даецца. Польская улада закладаць беларускія школы і ня думае, а ў закладзеных прыватна розныя інструктары вучыць беларускіх дзетак па беларуску спосабам часта грубым і дзікім забараняюць. А гэткая, як цела, так і душы, няволя беларускага сялянства даводзіць яго да бунтаў, да паўстаньняў, да крывавай барацьбы за свае правы, а часта і за незалежнасьць Беларусі. Да таго ўжо ўзрастае беларуская сьвядомасьць нашага сялянства. Знача, беларус няволі спакойна ня сьцерпіць, а волі яму не даюць, дык няма і міру, бо, калі сам народ наш не здоляе абараніць самога сябе, дык і яму на падмогу (са сваімі асабістымі мэтамі) прыйдзе нехта трэці. А тымчасам польская ўлада гэтага, казаўбы, не разумеючы, маўчыць і цісьне наша сялянства, як духова, так і матэр‘яльна. Словам з боку Польшчы адносна да нас усё робіцца так, як на „Крэсах“ рабіць трэба.

Калі адвечная сталіца агульнай Літвы сталася толькі сталіцай Літвы „Сярэдняй“, дык спачатку, трэба сказаць праўду, скарыстаў у некаторай меры і наш беларускі народ, якога найбольшы лік і знаходзіцца у так званай «Сярэдняй Літве». Тады беларускія школы пачалі разьвівацца нязгорш. І ад таго часу, быццам у спадчыне, і цяпер мы маем у Ашмянскім павеце нешта 124 беларускія школы людовыя і гістарычную вучыцель-

## Новыя кнігі.

**М. Гарэцкі. — „Гісторыя беларускае літэратуры“** (старадаўнае, новае і сучаснае). 208 стр., 33 рысункі, альбомная папера, цьвёрдая акладка. Цана 125 польскіх мар.

**Браты М. і Г. Гарэцкія — „Маскоўска-беларускі слоўнік“**, выданьне II, з папраўкамі і вялікімі дадаткамі, 144 стр., цана 75 польскіх марак.

**Антон Навіна—„Пуцяводныя ідэі беларускае літэратуры,** адбітка з „Нашае Думкі», цана 20 польскіх марак.

**А. Канчар — «Клясавае, нацыянальнае і рэлігійнае змаганьне на Беларусі»**, адбітка з «Нашае Думкі», цана 20 польскіх марак.

**Я. Лёсік—„Нашая крыніца“**, трэцяе чытаньне для беларускіх пачаткавых школ. 107 стр., цана 50 польскіх марак.

**Тэрміналёгія арытмэтыкі,** укладзеная Камісіяй Менскага Беларускага Пэдагогічнага Інстытуту. Цана 10 польскіх марак.

Апрача таго, передрукаваны:

1. **Лемантар „Зорка“** ч. 1 А. Смоліч, цана 20 м.
2. **Беларуская Граматыка** Тарашкевіча, цана 22 м.
3. **Задачнік Юрэвіча** год I.

Прадаюцца ў «Беларускай Кнігарні», Вільня, Завальная 7.

скую сэмінарыю ў Варунах, якой ісгнаваць „благосклонно разрѣшено“ толькі да 15-га мая. А ўжо ў сучасны мамэнт, у меру таго, як і „Сярэдная Літва“ забываецца аб сваей сяродкозасьці, а чуецца „Крэсамі“ Польшчы, беларуская культурная праца слабне і нат гіне надзея на яе магчымасьць. Словам, на ўсей Заходняй Беларусі польская улада стварыла свае «Крэсы».

Савецкая Беларусь, што складаецца з пяцёх паветаў Меншчыны, істнуе толькі для вока і на сьмех людзям. Паводле савецкай палітыкі уся Усходняя Беларусь, апрача Меншчыны, гэта Расейская рэспубліка, а Меншчына—беларуская, але датуль, дакуль гэта карысна для тайнай савецкай палітыкі. У Менскай беларускай рэспубліцы беларускае сялянства здабывае свае правы столькі, сколькі паасобныя ідэйные беларусы, верныя сыны свайго народу, як Жылуновіч, Ігнатоўскі і інш. здаляюць бараніць беларускую душу ад расейшчыны, хітра прыкрытай камуністамі. Там таксама беларуская люднасьць скрыўджана духова і матэрыяльна. І там яна бунтуецца, робіць паўстаньні, крывава бароніць сама сябе, як гэта нядаўна было ў Случчыне і што больш-менш цяпер дзеіцца у Меншчыне.

Знача, мы даходзім да таго, «что и требовалось доказать»: Беларусь — гэта „Крэсы“ Польшчы і „Сѣверо-Западный Край“ Расеі. Дык дзеж тут мір, дзеж супакой? Народ Беларускі на мір, роўназначны з няволяй, не пазволіць, чымсі знасіць вечны здзек, вечную няволю.

Справа Вільні і Віленшчыны, справа літоўска-польскай спрэчкі таксама штораз, то цямнейшай робіцца, штораз, то труднейшае яе разьвязаньне. З боку Польшчы мы бачым вялікую упорыстасьць, вялікую ня ўступнасьць. Вільня з Віленшчынай усё выразьней стаецца «Крэсамі». Вільня—адвечная сталіца літоўска-беларускай дзяржавы, Вільня, як этнолёгічна, так географічна, эканамічна і палітычна—неадлучная частка усяго нашага Краю, які спрадвеку Літвой завецца. Прылучыць Вільню і Віленшчыну, а таксама і Гродзеншчыну да Польшчы—немагчыма, і зрабіць гэтага Польшчы ня удасцца ніколі. Аб гэтым няма што і талкаваць. Уся гутарка аб гэтым пытаньні можа і павінна быць толькі каля таго, як у Літве са сталіцай Вільняй упарадкаваць чатыры народнасьці: беларускую, літоўскую, польскую і жыдоўскую. Уся труднасьць разьвязкі гэтага пытаньня ў тым, як у незалежнай Літве, у незалежным нашым Краі адбараніць усе чатыры народнасьці. А з незалежнасьцю і палітычнаю асобнасьцю Літвы з Вільняй трэба усім згадзіцца. Іншага выхаду няма і быць ня можа.

Калі-ж беларускае і літоўскае пытаньне будуць зводзіцца толькі да „Крэсаў“ польскіх і да «Сѣверо-Зап. Края», як запраўды дагэтуль робіцца, люднасьць наша не зьнясе няволі, будзе паўставаць і бурыцца і такім чынам дасьць спосаб некаму іншаму ўмяшацца ў нашы спрэчкі і скарыстаць з нашых звадак. А гэтым іншым будуць нямецка-расейскія манархісты, якія усе сілы прыкладаюць да таго, каб ня было ані Польшчы, ані Літвы і Латвіі, ані Беларусі і Украіны. Аб гэтым мы усе добра павінны помніць.

# Польскае сьвята.

„На той зямлі, як бы забытый Богам, мусіць запанаваць свабода і права вольнага, нічым ня сьціскаемага выпавяданьня аб сваіх жаданьнях і патрэбах“.

(З адозвы Я. Пілсудскага 22 красавіка 1919 году).

Прашло два гады пасьля таго, як гэтыя прыгожыя словы былі сказаны чалавекам, катораму па добрай старой памяці многія гатовы былі верыць. Але былі і такія, каторыя казалі, што за прыгожымі словамі аб свабодзе і роўнасьці прыдзе зусім інакшая рэальнасьць, а словы астануцца толькі словамі, павісшымі у паветры.

Наш край ёсьць край пераважна беларуска-літоўскі з прымешкай польскага і жыдоўскага элемэнтаў.

У кожнага з народаў, засяляючых наш край, ёсьць свой нацыянальны ідэал, свае жаданьня, падчас трудна прымірымыя на першы погляд, але не такія ужо неразрашымыя пры добрай волі усіх.

І вось мы бачым, што да апошняй пары з боку тых, хто два гады таму назад прынес нам лёзунг: «вольныя з вольнымі і роўныя з роўнымі», нічога ня зроблена, каб гэты лёзунг зрэалізаваць у спосаб, прыемны для усіх жыхароў нашага краю, якой бы нацыянальнасьці яны ня былі.

Наадварот! Усьлед за прыгожымі словамі, у „як бы Богам забытай зямлі“ запанавала польска-панская рэакцыя, пачалося змаганьне з усім, што ня ёсьць польскім,—глаўным чынам—з усім беларускім і літоўскім.

Дзякуючы такой палітыцы, абвешчаная на словах вольнасьць перавярнулася на дзеле у паднявольнасьць, роўнасьць—у рабства—для тых, хто не паляк.

Беларус, ліцьвін, жыд... спытайцеся у іх, якімі *польскімі вольнасьцямі і роўнасьцямі* яны карыстаюцца.

Якім сьмяротным холадам для усяго беларускага і літоўскага вее ад польска-панскай рэакцыі, «вызваліўшай» нас ад бальшавікоў і надзеўшай на нас цяжкое ярмо?

Ува ўторак, 19 красавіка, паны-палякі адсьвяткавалі у Вільні, сталіцы «Богам забытай зямлі», два гады «вызваленьня». Пад трэск гарматнай страляніны, пад звон аркестраў... адсьвяткавалі па-польску...

А мы —„роўныя і вольныя“— дзівіліся і толькі дзівіліся на тое, што пачалося ў нашым краі калісьці з прыгожых слоў і што дайшло цяпер да магільнай пліты... для „роўных і вольных“.

Мы гэтага чакалі, нас прыгожымі словамі ня купіш...

**Вольны беларус.**

# Барацьба за зямлю.

### Крыўда беларускаму народу.

Калі ў польскім сойме ухвалілі закон аб колонізацыі заходня-беларускіх паветаў польскімі жаўнерамі, сама сабой узнімалася думка: дзеля чаго гэта робіцца і каму з гэтага будзе карысьць?

Было зусім ясна, што беларускаму народу, беларускаму сялянству, ад вякоў пакутаваўшаму на гэтай зямлі робіцца цяжкая крыўда. Было такжа ясна, што калі ў межах Польскага Гаспадарства, катораму бальшавікі падаравалі заходня-беларускія паветы, будзе вялізарная грамада пакрыўджаных і затым нездаволеных людзей, дык гэта будзе вечнай пагрозай для Польшчы і для яе некарысна. Было, ўрэшце, ясна, што колонізацыя Беларусі ня дасьць шчасьця і польскім колоністам: папаўшы між чужы і зусім натуральна варожа настроены народ, гэныя колоністы будуць прымушаны вясьці вечную барацьбу з сваімі найбліжэйшымі суседзямі і будуць выклікаць у беларусаў ненавісьць да сябе.

Як бачым, ваенная колонізацыя Беларускае зямлі шкодна і беларусам, і Польшчы, і самым колоністам, каторых сойм маніцца „ашчасьлівіць“ чужой крыўдай. Камуж яна карысна?

### Карысьць абшарнікам у Польшчы.

А карысна яна выключна польскім паном. У Польшчы ўжо даўно сойм ухваліў закон аб зямельнай рэформе, паводле катарага ад паноў мае быць выкуплена зямля прымусова дзеля надзяленьня (за плату) сялян. Такі прымусовы выкуп вырывае з рук польскага панства магчымасьць панаваць і над сваім народам, і над усей дзяржавай: як зямляўласьнікі, польскія паны зьяўляюцца гаспадарамі палажэньня ў Польшчы, бо трымаюць у сваіх руках хлеб. Вось, хоць за зямлю ім сойм суліць грошы, дык-жа пазбаўляе іх магчымасьці рабіць магутны націск і на ўрад і на сойм, і на ўсё грамадзянства, а хлеб пакідае сялянам, павага каторых у гаспадарства павінна вельмі высака падняцца Польскае панства ўсе гэта разумее таксама добра, як і мы, і затым, хаця сойм даўно ўжо гэны закон зацьвярдзіў, урад—пад націскам паноў—дагэтуль нічога не зрабіў, каб яго правясьці ў жыцьцё.— Наадварот, паны ня спалі: яны бязупынна круцілі галовамі, каб ня толькі часова задзяржаць спаўненьне пастановы сойму аб зямлі, але і зьніштожыць самы гэны закон. Вось, закон аб ваеннай колонізацыі беларускіх паветаў быў першым крокам да гэтага.

### Польскіх сялян ашукалі!

Тыя сялянскія дэпутаты, якія ў варшаўскім сойме падавалі галасы за надзяленьне беларускай зямлёй польскіх жаўнераў, напэўна і ня думалі, што яны выслугоўваюцца сваім паном-абшарнікам. Бо паном ішло аб тое, каб высяліць

# Мутэрка.

(*Гл. № 16*).

Ява другая.

**Мутэрка**, потым **Соня**.

**Мутэрка** (Адзін; пахадзіў троху, сеў, задумаўся). Эт, чорт дзяры. Ці ня лепей за усё будзе мне кінуць мясьцечка і заваліцца на дзярэўню да бацькі. Забіцца, казаў той, у нару і сядзець, пакуль мінецца завіруха й небясьпека. Можа Дзянікін прыдзе, можа чорт, можа д'ябал, абы ня гэтае паганае панаваньне польскай шляхты. Дзівуюся, як могуць быўшыя расейскія афіцэры йці ў польскае войска валанцёрамі? Дзе іхныя мазгі? Ідуць да тых, каторыя зачыняюць праваслаўныя цэрквы і намастыры, забараняюць адчыняць расейскія школы, наварачываюць наш рускі праваслаўны люд на каталіцтва і гэткім гвалтам далучаюць спрадвеку наш севера-западный край да Польшчы. Не, калі ўжо выбіраць, то лепей згоджуся на камуністаў. Прынамся, свае людзі. А хто ведае?—дасьць Бог, выветрыцца жорсткаць камуністычных парадкаў, дасьць Бог, прымуць яны такія формы, што можна будзе вытрываць. А калі так, то чым я надта аддаляюся ад камуністаў? Што, я ня хочу, каб мужыкам аддалі панскую зямлю? Што, я ня хочу, каб фабрыкі былі-б знацыяналізаваны? Што, я ня хочу, каб прыціснулі такіх подлых буржуа, як гэтыя (махае рукою на дзьверы), што жывуць у нас па гарадох і па мясьцечках і смокчуць кроў з мужыка? Чым-жа я ў ідэі не камуніст? Адна розьніца, што я не магу пакрыўдзіць навет бабы, а яны сьмела спускаюць кроў ня толькі паном і падпанкам, а кожнаму, абыкаму. Ну, але паказаў бы тады й я, дзе ракі зімуюць, розным нашым белаляхам і беларусам. Сволачы! Эт, чорт дзяры, завалюся на дзярэўню да бацькоў і арганізую нейкую камуну.—Цяпер ня тое, што раней, калі сорамна было працаваць; цяпер навет гонар, калі чалавек з маёй адукацыяй пойдзе гараць. Нудажыліся! Каб ты згарэла, гэткае жыцьцё!

**Соня.** (Стукае). Можна?

**Мутэрка.** Калі ласка!

**Соня** (Уваходзіць з кніжкамі і сшыткамі). Як у вашым пакоі цёпла, Даніл Пахомавіч, але дымна.

**Мутэрка**. Ад табакі.

**Соня**. Навошта шмат курыце?

**Мутэрка.** Каб лягчей было на сэрцы.

**Соня**. А вам цяжка, Даніл Пахомавіч?

**Мутэрка.** А Соні хочацца мяне пашкадаваць?

**Соня**. Чаму не? Я ўсіх жалею...

**Мутэрка.** Ну, сядзьце-ж, калі так, будзем займацца. Можа, дыктоўку напішам?

**Соня.** Ой, Божа мой, штодня дыктоўку, — так ужо дадзела. І я ня ведаю, чаму вы хоч канешне па старому правапісу, калі ўсё роўна прыдуць бальшавікі і будзе па новаму. Вось, сястра мае таварышкі казала, што ў Вільні, у той гімназіі, дзе Фаня вучыцца, таксама пішуць пановаму. Бо так гаразд лягчэй, навошта пастарому, я не разумею.

**Мутэрка.** А Соня чакаець камуністаў?

**Соня**. А хто іх не чакае? Кожны мужык пеўны, шты яны не вясною, дык улетку будуць тут... Што вы так углядаецеся, Даніл Пахомавіч? (Папраўляе валасы). Здаецца, на мне нічога не напісана.

**Мутэрка** (Ціхім голасам). На вас, любая Сонечка, напісана тое, што вы надта сымпатызуеце камуністам, але ня проч, каб састроіць вочкі й легіанерам,—угадаў?

**Соня** (Азіраецца на дзьверы) Уй, як вам ня сорамна... мама ўдаму. Вы ня маеце права так гаварыць. Ну, будзем займацца, наканец.

**Мутэрка**. Будзем займацца... але як: пастарому ці пановаму?

**Соня**. Я-бы хацела пановаму.

**Мутэрка.** І я таксама.

**Соня**. Што вы ўсё глядзіцё на мяне? (Папраўляе ізноў зачоску). Даніл Пахомавіч сяньня якійсь асаблівы...

**Мутэрка.** А Соня сяньня так люба, так прыемна... чырванее, што мне хочацца глядзеці на яе бяз концу.

**Соня**. Уй, што гэта шамнула за дзьвярыма? Вам не здалося?

**Мутэрка.** Я ў зданьні веры ня маю.

**Соня**. Чаму так? Я чула, як быццам штосьці шамнула. А наагул вы веруеце, Даніл Пахомавіч? Якой вы палітыкі,—можна спытацца? Вы ўсё хавеце аб сабе.

**Мутэрка**. (Маркотна памаўчаўшы). Якіх я палітычных паглядаў, хоча сказаць Сонечка, так? Як вам тое вытлумачыць? Насамперш я беспартыйны. Ні да якой партыі ніколі я запраўды не належаў і, дасьць Бог, ня буду наляжаць. Бо ўсякая, самая лепшая партыя, Сонечка, накладае на чалавека свае ланцугі, а я—прынцыповы супраціўнік усякіх ланцугоў. Найдаражэй за ўсё на сьвеце ёсьць для мяне воля. Воля—гэта ўсё. Воля—змысл нашага земнага істнаваньня. Ведаеце як пяецца: «Ах, ты, воля мая, воля, залатая ты мая!» — ці нешта ў гэтым родзе. А ставячы так высока сваю асабістую волю, я ўмею шанаваць яе ў кожным чалавеку. Я нікога не забіў, і не заб'ю ні ў чога я нічога не рэквізаваў і не рэквізую, нікога я ня крыўдзіў і ня крыўджу, хаця прыусім гэтым я, аднак, ня высьцерагся... царскага вастрогу.

**Соня** (Узварушоная) Што?! Вы сядзелі за палітыку ў вастрозе, Даніл Пахамавіч, і дагэтуль зусім не пахваліліся? (Мімаволі пахіляецца наўперад).

**Мутэрка.** Сядзеў, любая Сонечка, прадстаўце!

**Соня:** Я першы раз чую. Завошта вас пасадзілі, Даніл Пахомавіч?

**Мутэрка**. Звычайна, зашто: хацеў людзём волі, а сялянам, апроч таго, зямлі.

**Соня.** Дык вы сядзелі за палітыку, Даніл Пахомавіч, а я дагэтуль ня ведала. Я вам ад шчырага дзявочага сэрца спачуваю. Трэба сказаць маме. Хай яна ведае, што і вы пацярпеўшы.

**Мутэрка.** А я прашу вас не казаць.

**Соня**. (Зьдзіўлена) Чаму?

**Мутэрка.** Таму, што ваша мама—чалавек зусім іншага сьветагляду, чалавек буржуазнага складу думак, каторы ў наш век, ці лепей кажучы, у наш крывава-чырвоны час пужаецца самага маленькага знаку чырвонасьці. Таму, што ваша мама з агідай адвернецца ад тых рэчаў, якім пры царскім рэжыме магла навет спагадаць.

**Соня** (Нясьмела). А мне часам здавалася, што мая мама вам вельмі падабаецца.

**Мутэрка**. Як чалавек? ну, разумеецца, так яна мне дужа падабаецца.

**Соня**. Як чалавек, і наагул...

**Мутэрка**. Што?

**Соня**. Як я магу сказаць? Можа быць, як чалавек, і наагул... як жанчына... бо мая мамачка была

на Беларусь сваіх малазямельнікаў і беззямельнікаў ды гэткім спосабам зьберагчы дворную зямлю ад падзелу ў самой Польшчы. Несьвядомасьць дэпутаў-сялян і здрада мужыцкай справы іх павадырамі-інтэлігэнтамі памагла панам дайсьці свае мэты!..

**Замест зямлі—панская ласка.**

Учыніўшы гэны першы крок, атраючыся на тым, што з захватам беларускае зямлі жаданьне і патрэба зямлі у польскага сялянства шмат аслабеець,– польскія паны зрабілі і другі крок. Польская газэта „Gaz. Wil.“ у нядзельным нумэры друкуе „цыркуляр“, разасланы нашым абшарнікам урадам памешчыцкага саюзу Віленшчыны (Zarząd Zwiazku Ziemi Wileńskiej). У гэным цыркуляры гаворыцца, што галоўная рада памешчыцкіх арганізацый у Варшаве суліць польскаму ураду самахоць дзеля разьдзелу сялянам (ведама, за грошы) частку дворных абшараў, але з той умовай, што зямельная рэформа рэшты не зачэпіць. Памянутая газэта ад сябе дабаўляе, што „паводле атрыманых з Варшавы ведамасьцей тамака робяцца стараньні, каб адцягнуць зямельную рэформу. Ды быццам іншыя спаміж членаў цяперашняга ўраду прыхільны да гэтага і гатовы былі-б пайсьці з панамі на міравую.

**Рыхтуймася да абароны.**

Як бачым, польскія паны ўмеюць добра хадзіць каля сваіх спраў і добра карыстаюць з цемнаты сваіх народных мас. Ды гэтага мала: яны стараюцца ўцягнуць у сваю работу і абшарнікаў у Беларусі: хоць яшчэ невядома, якая доля сустрэне нашу Бацькаўшчыну, паны на ўсякі прыпадакь стараюцца забаспечыць свае двары ад пераходу ў рукі тых, хто сваей працай ужо даўно купіў выключнае права на зямлю. А ўзіраючыся на работу паноў, павінны жывей закратацца і сяляне, каб гэтае сваё бязспорнае права удзяржаць і ня даць сябе абаламуціць і пакрыўдзіць так, як пакрыўдзілі паўсотні лет таму назад—пры скасаваньні прыгону!

**А. Н.**

# Сьпяшаюцца і сварацца.

У № 107 «Rzeczpospolitej» (выд: Варш.) пад загалоўкам „Przykre listy“ «адзін з прыяцеляў» гэтай газэты з Наваграцкага павету апісвае, *у які спосаб праводзіцца у жыцьце калёнізацыя Беларусі*: „*Салдаты і афіцэры самовольна выбіраюць сабе маёнткі* з добрымі будынкамі і з лесам. Так, напрыклад, у Наваграцкім павеце тры афіцэры акупавалі самавольна Сваяцічы—польскую ўласнасьць, добра загаспадараную. Пасьля інтэрвэнцыі старасты выдаліліся да суседняга маёнтку, які так сама акупавалі самавольна. У такі-ж спосаб акупаваны маёнтак Карэлічы».

У Несьвіжскім павеце робіцца тое самае: «Да несьвіжскага старосты, зусім непаінформаванага аб цэлай акцыі (каленізацыі. Рэд.), зьвярнулася 5 брыгада коньніцы з жаданьнем *каб ёй было выдзелена 7,500 валок ворнай зямлі ў павеце*».

«Прыяцель» шкадуе, што каленізацыя ідзе сьпешна, без пляну, дзякуючы чаму забіраюцца навет «польскія» маёнткі, тады як урадавыя і царкоўныя (аб касьцельных „прыяцель“ маучыць) ляжаць адлогам.

«Прыяцелю» хацелася-б, каб калёнізацыя праводзілася ў жыцьце способам, забяспечаючым польскім паном іх маёнткі. Урадовыя і царкоўныя землі можна і трэба калёнізаваць, але *не чапайце панскіх маёнткаў*!

Далей. *Кім калёнізаваць* беларускія і украінскія землі? Цяпер, калі справа калёнізацыі знайходзіцца у руках вайсковага міністэрства, яно абсажывае на нашых землях выключна салдатаў, якія, як думае «прыяцель», зьяўляюцца дрэнным каленізатарскім элемэнтам. «Прыяцель» хацеў бы, каб польскі урад абсажваў нашыя беларускія землі *запраўднымі польскімі гаспадарамі—мацёрымі короняжамі з «конгрэсуві»*, — гэтай моцнай апорай эндэцкай польскай палітыкі.

Ітак, нам ясна, што сярод польскага грамадзянства усякіх палітычных кірункаў і клясавых становішч справа калёнізацыі Беларусі прыбірае больш і больш павагі. І як заўсёды ў такіх прыпадках бывае, спачатку распачынаецца сварка паміж «цабядзіцелямі» а потым і расправа з няшчаснай афярай,—у данным прыпадку з намі—беларускімі сялянамі, беларускім народам.

Як для усякай афяры ўсе роўна, хто-б яе ні зьеў: воўк, мядзьведзь або чалавек, так і нам зусім аднолькава, хто адбярэ у нас наш хлеб-нашы землі: эндэк, людовец, ці пільсудчык, а мо‘ і ўсе разам.

Наш сялянін, катораму пагражае польская калёнізацыя, ужо зяварушыўся і, разумееца, дасьць адпор панскім зацеям. Не заўседы-ж быць нам галоднымі парабкамі у сытых паноў.

**Лукаш.**

# Сяляне, арганізуйцеся!

У-ва ўсіх краёх, у-ва ўсіх гаспадарствах социяльныя інтарэсы працоўных мас—тыя самыя. На гэтым грунтуецца міжнародная солідарнасьць пролетарыяту, якая выяўляецца ў вядомым клічу соцыялістаў: «Працоўная бедната ўсіх краёў, злучайся!»

Аднастайнасьць социяльных інтарэсаў работнікаў і сялян у розных гаспадарствах паказвае, што палітычны лад не зьмяняе гэтых інтарэсаў, а толькі можа памагаць або шкодзіць у здаволіваньні патрэб працоўнага народу — залежна ад яго дэмакратызму. Настане ў нас панаваньне дэмакратыі,—значыць, і работнік здабудзе сабе права на працу і поўны плён яе, і сялянін — права на зямлю. Вернецца манархія, царызм, — ясна, што з ім разам прыйдзе назад і панаваньне панства і капіталістаў.

Дзе працоўныя масы добра арганізованы, там і ўрад ідзе дэмакратычнай дарогай, там народ мае поўную магчымасьць забасьпечыць свае соцыяльныя патрэбы. Новая Зэляндыя з яе соцыялістычным урадам ужо даўно разьвязала зямельнае пытаньне, падзяліўшы ўсю зямлю паміж тых, хто сам яе вырабляе. А ў старой Расеі—мы бачылі сваімі вачамі, што ўсе лепшыя землі былі ў руках паноў і казны, народ-жа пух з голаду на сваіх нікчэмных шнурочках. А чаму? Таму, што народ быў неарганізованы, што ня было ў гэных сотак мільёнаў мужыкоў нічога, што злучала-бы іх у моцную, вялізарную армію працы—дужэйшую, чымся арміі салдатаў, жандароў, паліцэйскіх і чыноўнікаў. І толькі тады, як сам царскі ўрад сазваў увесь працоўны народ пад свае знамёны дзеля вайны з Нямеччынай, — толькі тады, сабраўшыся разам на баявым фронце, людзі зразумелі, што яны — сіла, што ад іх залежыць уся ўлада ў гаспадарстве. Ды як толькі гэта зразумелі, ўраз-жа счэзла царская ўлада і прыйшла воля. Але-ж фронт рассыпаўся, салдаты абярнуліся ізноў у хлебаробаў, нічым між сабой ня зьвязаных,—і вось адна партыя камуністаў, пад той час яшчэ зусім невялікая, разганяе ўсерасейскі устаноўчы сход і захоплівае ўладу ў свае рукі. Абвяшчаецца «дыктатура пролетарыяту», а як апошняга ў Расеі было вельмі мала, дык да новай улады прымазываюцца старыя рэакцыянеры і царскія слугі і правакуюць яе на барацьбу з сялянствам. Зямлёй распараджаюцца камуністы, не зварочваючы ніякае ўвагі на жаданьне сялянства атрымаць зямлю на ўласнасьць. Сялян прымушаюдь карміць мільённыя «чырвоныя» арміі і камісараў, нічога ім за хлеб не даючы. І хоць і цяпер сялян ў Расеі асталося каля соткі мільёнаў, яны — праз сваю неарганізованасьць — ня могуць бараніцца ад добра арганізаваных, хоць і шмат менш чысьленых камуністаў.

*Арганізацыя — гэта сіла.* Асабліва гэта павінны зразумець *нашы сяляне.* Яны жывуць на вялікім пласторы маленачкімі групамі — вёскамі, здалёк адна ад аднэй, дык без арганізацыі вораг лёгка можа прыбраць у свае рукі кожную вёску, кожную воласьць, кожын павет паасобку. Прыпомніце, колькі-то разоў зьмянялася ў нас чужацкая ўлада: была самадзяржаўная Расея, пасьля — кайзэраўская Нямеччына, далей — «чырвоная» Расея, пасьля—Польшча, тады ізноў бальшавікі, за імі ліцьвіны і вось цяпер часьцю варшаўская ўлада, часьцю «жэлігоўцы», часьцю «саветы». І хоць нас лічыцца каля дванаццацёх мільёнаў, а іх прыходзіла заўсёды па некалькі дзясяткаў многа-многа некалькі сот тысяч, аднак-жа мы ня мелі магчымасьці ані пікнуць! Чаму? — Ізноў-жа затым, што нашае сялянства, гэтая аснова беларускага народу, *не арганізована.*

Каб нас усе не таптталі і ня зьдзекаваліся над намі, нам *трэба арганізавацца.* Работнікі маюць па мястох свае партыі, каторыя злучаюць іх на грунце супольнай барацьбы за агульна-работніцкія ідэалы. Ёсьць, праўда, зачаткі партыйных арганізацый і па вёсках, але яны ня могуць злучыць увадну грамаду ўсяго сялянства—так, як робяць соцыялістычныя арганізацыі работнікаў. Ёсьць арганізаваныя групы, часткі сялянства: парабкі, безьзямельнікі,—але няма арганізацыі, якая *злучала-бы ўсё сялянства.*

Такую арганізацыю трэба стварыць Усе сяляне ў нас: ці то безьзямельнікі, ці малазямельныя (а такімі зьяўляюцца амаль

ў маладосьці надта прыгожая... але яна і цяпер яшчэ не старая.

**Мутэрка** (Зьбіты з толку). Папалі палцам у неба! Я ня ведаю, скуль вы маглі падумаць?

**Соня.** Ой, вам не здалося, што нешта шамнула ля дзьвярэй? (Аглянулася і шэпча) А гэта ня можа быць мама, што? Гапкі няма.

**Мутэрка.** Што вам усё здаецца? Мама сьпіць, а там, пэўне, котка бродзіць.

**Соня.** Трэба паглядзець.

**Мутэрка.** Чаго Сонечка баіцца, — нікога няма. Але як Сонечка баіцца, дык робіцца страшна падобнаю да свае мамы.

**Соня** (Канфузьліва) Можа быць. Але будзем, наканец, займацца.

**Мутэрка.** Добра. А чаму вы не пахваліліся, што новага пачулі ад сястры вашае таварышкі.

**Соня.** Ой, яна так многа чаго казала. Яна прывезла шмат сахарыну. Іх на дарозе трэсьлі і нічога не знайшлі. Толькі, толькі...

**Мутэрка.** Ну, ну, што?

**Соня.** Мне сорамна казаць. На заезным двары нейкі польскі афіцэр хацеў пацалаваць Фаню. Мне так сорамна вам прызнацца.

**Мутэрка.** Цяпер такія прызнаньні — звычайная гісторыя і ніхто іх не сароміцца. Я вам болей скажу,—я чуў ад аднэй свае знаёмае, што рабілі нямецкія афіцэры.

**Соян.** А што яны рабілі?

**Мутэрка.** Я вам пакажу, — вось, калі ласка, станьце сярод пакою.

**Соня.** Што такое? Можа не бясьпечна? Вы глядзіцё на мяне такімі дзіўнымі вачыма...

**Мутэрка.** Нічога, ня бойцеся, вы ўжо не такая маленькая дзяўчыкка, каб усяго баяцца. Вось, так, стойце. Вы—паненка, гуляеце на бульвары. Я – нямецкі лейтанант, я праходжу міма. Вы мне падабаецеся, я іду, кажу: „гут морген“ і... (Ідзець да яе, схіляецца і неўспадзеўкі цалуець, потым даволі шыбка, як раней, праходзіць міма і кажаць звычайным голасам). Вось так рабілі нямецкія афіцэры ў часе нямецкай акупацыі нашага севера-западнага краю.

**Соня.** Уй, што вы робіце! (Чуцен стук за дзьвярмі, потым голас Ліпскай: „Соня!“ Соня хапаецца за галаву, кідаецца туды-сюды і потым бяжыць да дзьвярэй) Што такое, мама? Я іду! (Выбягае).

Я в а т р э ц ь я.

**Мутзрка**, потым **Ліпская**.

**Мутэрка** (Адзін). Ну, пранясі хмару, Госпад Бог, старая карга пачула ці здагадалася. Царыца нябесная, ратуй мяне (ксьціцца, потым круціць цыгарку). А што-ж я такога зрабіў, што маю баяцца? Я нічога благога не зрабіў, толькі паказаў, як рабілі нямецкія лейтананты (Чуцен стук за дзьвярмі і няроўны голас Ліпскай: «Можна?»

**Мутэрка.** Калі ласка, вельмі прашу.

**Ліпская** (Неспакойная, твар у плямах). Уй, які сорам! уй, Божа мой, які сорам!

**Мутэрка** (Хоча ўзяць яе за рукі). Што такое, мадам Ліпская, я нічога не разумею.

**Ліпская.** Фі, ён сьмееець так казаць, што не разумее! Вон, вон, каб зараз вашая нага пакінула мой парог!

**Мутэрка** (Прычыніў дзьверы). Але што такое, Блюма? Чаго ты халяруеш, я запраўды нічога не разумею. Хацела памірыцца і ўзноў скандаліш.

**Ліпская** (Са сьлязьмі). Уй Божа мой, які ён нізкі чалавек, ён аскандаліў увесь мой дом, ён загубіў мяне і абразіў маю чыстую дачку, ён зрабіў так подла і нічога не разумее (Ламаець пальцы). Вон, вон, вон! Пакіньцё мой дом!

**Мутэрка** (Сядзіць разваліўшыся і курыць). Та-а-ак! Вось цяпер я бачу тваю запраўдную любоў. Ня хочаш прыймаць хрысьціянства і вярзеш на чалавека ліха ведае што, усялякую брыду, абы адчапіцца. Дык што-ж: купляла ты мяне толькі ці што? Зьневажай да яснага канца, кажы усё, што хочаш.

**Ліпская** (Спакайней, але з вялікай злосьцю). Я нічога аб тым не скажу, бо мне сорам падумаць, што я любіла такога нягодніка, як вы. Я хачу, каб маё вока век вас ня відзела, каб маё вуха век аб вас ня чула.

**Мутэрка.** Ну, вядома, чыста-буржуазная псіхалёгія: каб усё было шыта-крыта, тады і добра. Памыляецеся, мадам Ліпская! Хай кожны чалавек ведае, што я выйшаў чысты з гэтага балота, якое вы ўдавалі за сваю любоў. Хай кожныя ростані ведаюць, што я хацеў, як сумленны чалавек, назваць вас сваёю жонкаю прад Богам і людзьмі. Хай кожны сабака зьвягае, хай кожная жвінда жвіндае, што ня я прадаваўся, але ты, паганая брыда, буржуйка, хацела купіць беднага вучыцеля з целам і душою. Хай-жа ведаюць, што ты карыстала з майго цяжкога матар‘яльнага становішча і хацела купіць ня толькі пралетарскае цела, але й вольную чалавечую душу. Хай ведаюць маю бяду, але хай ведаюць і тое, што я выйшаў адгэтуль з горда узьнятаю галавою, што я вынес з дому Ліпскай, з гэтага болота, чыстую душу. Хай ведаюць, і палядзім, каму з нас будзе мулка?

**Ліпская** (Надта зазлаваная). Вы, пан Мутэрка, пагражаеце брахнёю? Хто-ж вам дасьць веры? Хіба такія-ж авантурнікі, як самі вы. Вас многа такіх цяпер ёсьць, я ведаю. Ня ўсіх яшчэ выкінулі на сьметнік бальшавікі. Ня ўсіх яшчэ пагнаілі ў лагерах паны. Ды я вас не баюся! Ніводзін наш месьцячковы ня дасьць вам цяпер лекцыі, пане Мутэрка! Пойдзеце да свайго бацькі і будзеце там есьці лупленую бульбу. А калі станеце на мяне маніць няпрыгожыя рэчы, дык я не такая бедная, каб мне хто смаліў вочы за такога вучыцялішку. Я знайду сабе аборонцаў!

**Мутэрка** (Усхапіўся). Маўчы! Ато я цябе тут...

**Ліпская**: Біцца хочаце, што? Я не баюся вас. Соня! Соня!

Я в а ч а ц ь в ё р т а я.

**Мутэрка**, **Ліпская** і прыбягае **Соня**; яна ўтупіла вочы і стаіць ля вушака дзьвярэй.

**Ліпская.** Вось, Сонечка, я абрахавала, што пан Мутэрка, як гэткі слаўны рэпэтытар, нам дужа дорага каштуе. У мясьцечку ёсьць болей зручныя для нас вучыцялі..

**Соня.** Мне ўсё роўна.

**Мутэрка** (Нэрвова апрануўшыся і стануўшы ля дзьвярэй). Дзякую, мадам Ліпская, я на вас не ў пратэнсіі і зараз прышлю хурманку па свае рэчы. Хай Гапка складзець іх у парадку (Двусмыслена. Ня тужыце па мне, Соня!

**Ліпская.** Фі!

*Канец.*

**Максім Гарэцкі.**

ня ўсе!) — павінны абаднацца на тым, што ў іх ёсьць супольнае. А супольна ў іх жаданьне, *каб уся зямля перайшла да тых, хто сваімі рукамі працуе на ёй*, дык каб перайшла не часова, не ў арэнду або чынш, а ў *поўную ўласнасьць назаўсёды*. На аснове гэтага жаданьня трэба абаднаць усё нашае сялянства ў многамільённы, магутны *Беларускі Сялянскі Саюз*.

Такі саюз у нас ужо існаваў у 1905 годзе пры Беларускай Соцыялістычнай Грамадзе. Саюз гэты адыграў тады вялізарную ролю: пад той час, як па ўсей Расеі сяляне палілі панскія двары і нішчылі дворнае дабро, за што іх бязьміласэрна расстрэлівалі царскія найміты,— у нас, дзякуючы арганізованай працы сябраў Саюзу, ня было дарэмнага праліцьця крыві, ня было глуму агульна-краёвага багацьця, а спакойнымі забастоўкамі сяляне дабіліся значнага павялічаньня заработнае платы, лепшых варункаў працы і іншае палёгкі. Саюз разумеў, што ў гэны мамэнт рэвацюцыйны выбух ня мог удацца, бо ўлада цара і паноў была йшчэ вельмі моцная,—і лось ён павёў сялянства па такой дарозе, якая давяла яго да пабеды, хаця і ня поўнай.

Цяпер гэты Саюз трэба ўзнавіць: ён павінен нас давясьці да *поўнае пабеды*. Няхай-жа кожын сьвядомы беларус на вёсцы,—ці то хлебароб, ці інтэлігент, народны настаўнік і т. д., — няхай ураз-жа завіхнецца дзеля арганізацыі каля сябе мяйсцовага, ці валаснога ядра, няхай такіх ядзер створацца дзясяткі і сотні, няхай яны зьвяжуцца паміж сабой, і тады маючы ясны і выразны кліч: «зямля для народу!», яны створаць такую магутную сілу, якой ніхто і нішто супрацівіцца ня здолее!

**Г. Б.**

## Да творчай працы.

Тое што пераважная частка беларускіх дзеячоў занімаецца палітыкай і аддае свае сілы палітычнай рабоце, — зразумела само сабой. На гэта ёсьць лішне многа прычын. Але не заўсёды тое, што зразумела, можа быць апраўдана: наадварот, сьвядомая грамадзкая думка павінна бароцца з усім тым, што хоць і выклікана ходам жыцьця, ды робіць нашаму народу не карысьць, а шкоду.

Гэткую шкоду робіць нашаму народу лішняе *палітыканства*. Культурных творчых сіл у нас далёка не за шмат,—а тымчасам сколькі іх марнуецца бяз ніякае карысьці на чужых кутох, дзе ім здаецца, быццам яны запраўды служаць Бацькаўшчыне! А сколькі іх у самай Бацькаўшчыне траціць безкарысна свае сілы і здольнасьці на партыйную грызьню і на справы сваей партыі, бачучы ў ей самацель і не разумеючы, што парты дзеля таго і творыцца, каб *рабіць дзела*, а ня толькі гаварыць аб ім!

Ведама, мы ня думаем адкідаць вагі і патрэбы палітычнае працы заграніцай. Але-ж да такое працы трэба пару добрых галоў, а ня соткі крэпкіх рук! Мы ведаем, што пры розных нашых місіях і прадстаўніцтвах гуртуецца залішне многа людзей, якія там выпаўняюць *чыста тэхнічную работу*, хаця маглі-бы дома вясьці самастойна культурную ці эканамічную працу. Мы чыталі, што, напрыклад, у Бэрліне ёсьць гэтулькі беларусаў, што тамака ладзіцца асобная беларуская арганізацыя (—ў дадатку з вядомым правакатарам Шнеурам на чале! То ж «беларусам» аб'явіўся!) Чыталі мы, што і ў Латвіі ёсьць вялікая беларуская колонія, і ў Варшаве, і шмат яшчэ ў якіх мясцох. Вось-жа пара ім ужо варочацца ў Бацькаўшчыну, дзе работы для іх будзе поўна—напэўна больш, чым яны здолеюць зрабіць!

Ня кажам мы нічога і проці партый. Але іншыя з іх у нас даўно зьбіліся з простае дарогі і, замкнуўшыся ў вузкапартыйных рамках, ня бачуць самога жыцьця і яго патрэб, ня бачуць, што гэтай адорванасьцю ад жыцьця яны падкапываюць самую аснову свайго існаваньня, а часам служаць прост за забаўку ў чужых і варожых руках...

Тымчасам патрэбы, акія кожын дзень родзіць жыцьцё, павінны быць здаволены. Як і кім?

Вось, тут мы і падыходзім да тае галоўнае прычыны, якая прымушае нас цапер падняць публічна наш голас, заклікаючы ўсіх актыўных беларусаў да творчае працы. Бо нашы жыцьцёвыя патрэбы здаволіваюцца блага і здавоіваюцца чужынцамі, каторым наш народ плоціць лішне дорага: плоціць, запрадаваючы ім сваю нацыянальную душу, сваю мову, сваю волю, сваю Бацькаўшчыну. Нашы эканамічныя арганізацыі — аснова нашай матэрыяльнай незалежнасьці і моцы—захопліваюцца палякамі, або маскалямі. Асаблівую энэргію ў апошнім часе выяўляюць у нас маскалі: яны прыкідваюцца беларусамі, уваходзяць у даверые беларускага грамадзянства, пранікаюць у беларускія установы і арганізацыі і зьвіваюць тамака моцныя гнёзды маскоўшчыны, працуючы для „единой, недѣлимой Матушки-Россіи». Мы ведаем установу, дзе такі «тоже-бѣлоруссъ», занімаючы кіраўнічае становішча, робіць кожын месяц «вычаты» з пэнсіі сваіх працаўнікоў-беларусаў на... маскоўскія школы! Мы ведаем, што ў другую установу, якая мае асаблівае значэньне для беларусаў, адзін за адным залазяць такія-ж маскоўскія правакатары, цягнучы за сабой туды ж сваіх аднадумцаў, і, ўмацаваўшыся на беларускім хлебе, пачынаюць адкрыта бароцца з беларушчынай і з беларускай мовай... А што робяць запраўдныя беларусы? О, яны заняты «вялікай палітыкай», заняты тым, што кружацца паміж Бэрлінам і Масквой, Варшавай і Рыгай, іграючы ў дыпляматаў, да чаго ня маюць, часам, ні галавы, ні здольнасьці. Яны ад імя Беларусі робяць умовы і падпісываюць акты, якіх не асьмеліваюцца навет адкрыць перад грамадзянствам, прыкрываючы свае абмылкі (калі ня нешта горшае!) „дыпляматычнай тайнай"!..

У перажываным цяпер часе герой — ня той, хто ўмее кінуць некалькі пекных слоў ці напісаць ваяўнічы артыкул, а той, хто на скромным, мала відным становішчы робіць запраўды беларускае дзела, хто будуе Беларусь ня звонку, а знутра — ў сябе дома. Герой—той народны настаўнік і настаўніца, якія ў голадзе і холадзе, бяз пэнсіі, пад грозьбай арышту ці «кулькі ў лоб» з боку окупантаў гадуе будучых сьвядомых грамадзян Беларусі. Герой, хто, ня гледзячы на байкот з боку чужое ўлады, арганізуе сялянскую самапомач (коопэратывы), заклады культурныя і гаспадарскія арганізацыі, цьвёрдымі асабістымі выступленьнямі паказвае цямнейшым братом сваё і іх права быць беларусам! Бо іх праца — гэта праца мураваная, праца, якой ніхто і нішто зьніштожыць адрабіць ня можа, бо яна узгадоўвае ў душах народу пачуцьцё чалавечага і нацыянальнага права, пачуцьцё духовае незалежнасьці!

Ёсьць яшчэ многа галін творчае працы, да якіх мы ня маем доступу, бо нас зьмяняўшыяся адзін за адным окупанты да яе не дапускалі. Гэга—праца ў валасных і мястовых самоўпраўленьнях, якія часьцю ёсьць, часьцю маюць выбірацца. Няхай-жа тыя, што так добра ўмеюць гаварыць пекныя словы, возьмуцца да гэткай працы, няхай здабудуць веру шырокіх народных мас ня толькі словам, а дзелам, — і тады ніякі чужынец, ніякі окупант ня здолее адсунуць свядомых беларусаў ад учасьця ў агульна-краёвым грамадзкі жыцьці і будаваньні Бацькаўшчыны.

Праца гэта—трудная, вымагае самаадрачэньня і вялікай ідэйнасьці. Але мы верым, што ідэйнасьці і моцы духовай у нас хваце і на яе!

**Ів. Мялешка.**

## Таварны крызіс.

Дагэтуль чыталі мы ў газэтах, тое, што за граніцамі дзеецца штось дзіўное: тавараў так многа, што іх некуды дзяваць, рабочыя бунтуюцца дзеля таго, што на фабрыках зашмат вырабаў і што гэтыя вырабы ніхто ня купляе. Гаварылі нам, а мы ня дужа верылі, жывучы на краю сьвета,—у нашай Віленшчыне. Хваля дзешавізны тым часам кацілася і кацілася па Эўропе, пачаўшыся ад Амэрыкі, якая перажывае крызіс сялянска-гаспадарскі, бо некуды ёй дзяваць збожжа, Англіі— у якой некуды дзяваць мануфактуру і вырабы мэталёвыя; дакацілася хваля крызісу да Гданска і ў апошні час ужо ўскалыхнула гандаль Віленшчыны. Наш гандаль у сучасны мамэнт спалоханы. Сярод гандляроў замяшаньне. Баяцца, што цэны будуць яшчэ болі зьменшацца, стараюцца пазбыцца ад некаторых тавараў, прапануючы іх налева і направа, а гэта ў свой чарод выклікае яшчэ большую паніку.

Крызіс у Вільні, апроч гэтага, прыпаў акурат да палявых работ на вёсках. Сяляне ня едуць па тавары. Гандаль зьменшыўся больш як напалавіну. Сьвяты: каталіцкае, праваслаўнае і яўрэйскае таксама мешалі гэндлю, хоць перад сьвятамі на іншыя рэчы гандаль і ажыўляўся.

Тымчасам прывоз тавараў за апошні месяц павялічыўся амаль не ўтрая.

Вільня, усёжтакі, яшчэ ёсьць такое места, гдзе можна тавары прадаць даражэй, чым на захадзе, і ўсе купцы свае заляжалыя тавары шлюць сюды. Трэба спадзявацца, што яшчэ і будуць покуль слаць сюды, бо ў Вільні тавар зьбіраецца для гандлю з Савецкай Расеяй.

Нашы гандляры так ці інакш спатворыліся, бо дагэтуль яны ня дрэнна гандлявалі. Пасля бальшавікоў многа паветаў былі галодны многімі таварамі. Трэба было ў працягу цэлага паўгода іх здавольніваць, і цяпер усе мястэчкі ўжо здаволены. Першыя патрэбы вёскі ўжо задаволены. Віленшчына ужо ня можа так глытаць вагон за вагонам, як яна гэта рабіла дасюль. Пакупная ёмкасьць Віленскага района значна зьменшылася і застой у гандлю цяпер зьяўляецца зразумелым.

Можна спадзявацца, што мы уваходзім у такую самую паласу спакойнага гандлю, якая адзначалася пры ліцьвінох.

**Станіслаў Чыжэўскі.**

## Думка з Ашмяншчыны.

Мінула зіма. Сонца што дзень вышэй і вышэй уздымаецца на небе. Зямля скінула сваю зімовую посьцілку. Па чорным твару яе гучна праляцелі бліскучыя ручайкі і рассасаліся па палёх і балотах. Усюды суха, цёпла, ясна і толькі дзе-ня-дзе над балотамі вісіць раніцай туман— сумны, як думкі беларуса. Але падымецца сонца вышэй, прыгрэець гарачэй, і згінець апошні туман на балоце, а з ім разам (страшна сказаць!) можа і не адна беларуская думка на Ашмяншчыне. І будзе грэць сонца, ласкава глядзець у ваконца, але... ці ў наша? Вось пытаньне, якое вісіць у нас пад Ашмяншчынай. Адказам на гэта пытаньне можа быць з нашага боку толькі праца, але не такая, якая вялася намі тутака ў апошнія месяцы і якую можна прыраўнаваць да дравасека, каторы, прышоўшы ў лес, хапіўся, што забыўся дома тапор і пілу. Гэтакае раўнаваньне нашае працы на Ашмяншчыне я даю вось дзеля чаго: 1) вучыцялі прыяжджалі ў вёскі зусім не паведамленыя аб матар'яльным становішчы сялян, з іх духоўным сьветаглядамі, палітычнымі поглядамі і адносінамі да ўсяго беларускага. Дзеля гэтага з самага пачатку рабілі шмат абмылак; школьныя гутаркі мелі характар крамнагандлёвы. Нябудучы забясьпечаны, вуцыцялі мусілі скора здацца сялянам матар'яльна, а за тым, дзякуючы стара-царскім разуменьням інтэльлігенціі, трацілі свой аўторытэт, а пазьней сталі паддавацца мясцовым уплывам. 2) Там, дзе ўдаваласл адчыніць школу, немаглі карыстаць ёю з прычыны адсутнасьці кніжак, патрэбных інструкцый, праграм. 3) Вучыцялі былі кінуты па сваіх кутох бяз усялякага кіраваньня, без парады і зьвязку як з вышэйшымі школьнымі установамі, так і паміж сабой. Праца вялася неарганізавана, не абдумана, безкантрольна. Ініцыятыва адзінак, без матарьяльнай і, галоўным чынам, маральнай падмогі хутка забівалася. 4) Ня было патрэбнага падбору вучыцялёў. Выглядала так, нібы яны былі сабраны „з бору па сосенцы", дзеля чаго некаторыя з іх ня толькі ня былі шчырымі беларусамі, але яшчэ гарэй. Гэткія вучыцялі, пры нашай безкантрольнасьці, маглі карыстацца школай (калі ня карысталіся) як хацелі. Вось галоўныя рысы тых недахватаў, якія наводзяць сумныя думкі на беларуса ў Ашмяншчыне. Каб нашыя справы тутака на другую зіму палепшалі, трэба рыхтавацца да новай працы зараз, не адкладаючы да апошняга дня. З канцом зімовай працы ў школе, павінна зачацца праца летная, падгатаваўчая. Гэта падгатаваўчая праца, як мне з гэтуль здаецца, павінна быць узложана на асобную пастаянную камісію ці раду па справам вясковых пачатковых школ. Яе праца павінна складацца так: 1) выпрацоўваньне школьнай праграмы; 2) складаньне і друкаваньне падручнікаў у патрэбным ліку; 3) выпрацоўваньне інструкцый для вучыцялёў (як чыста школьных, так і агульна-тактычных).

Згодна з вышэйпісаным, яна павінна заняцца арганізацыяй беларускіх вучыцельскіх курсаў, на якія павінна прыцягнуць магчыма больш інтэльлігэнтных сіл беларускіх (хоцьбы чынам адозвы да беларускай інтэльлігенцыі).

Загадзя прызначыць пэўных беларусаў школьнымі інструктарамі, якія-б былі зацікаўлены школьнымі справамі, былі-б даволі ініцыятыўны і мелі-бы сваім абавязкам ня толькі нагляд за школамі, але галоўным чынам, зьвязак з вучыцялямі і Вільняй, арганізацыю пазашкольнай асьветы (вячорныя курсы, спэктаклі, лекцыі і г. д.). Гэткая падгатаваўчая работа ў працягу лета, па маёй думцы, дасьць нам магчымасьць паслаць у восень вучыцялёў па вёсках з патрэбным матар'ялам, і добра з'арганізаванымі, якія змогуць вясьці сваю работу паступова, з жаданымі вынікамі. Пішу гэта, маючы на ўвазе ўрадовыя беларускія пачатковыя школы; яны, па маёй думцы, павінны быць чыста-беларускімі, з беларускай мовай, з выкладаньнем усіх навук па-беларуску. Польская мова, як гаспадарсьцьвенная (? Рэд.), дзеля практычных мэт можаць выкладацца толькі як асобная павука ў дзьвюх старэйшых групах (маю па ўвазе 3-х зімовы тып пачатковых школ).

Гэту апошнюю думку адзначаю тым беларускім дзеячам (ня дзеля палемікі, а дзеля абмена думкамі), каторыя, спужаўшыся несьвядомасьці тутэйшых беларусаў, згаджаюцца зьвясьці нашы школы да роўня польска-беларускіх ці навет польскіх з уплывамі прысутнасьціі ў іх староньніка беларушчыны. Працу гэткую я дапускаю толькі у школах польскіх і пазашколай. А ў беларускіх урадовых школах рабіць гэтак ня можна, за тое што:

1) гэтакія школы нямагчыма кантраляваць і ў іх налезуць папоўскія сынкі ды дачушкі рэакцыянэраў ці стауленьнікі палякоў і будуць прафанаваць нашу школу, здьзекавацца над нашымі ідэаламі, ідучы за палякамі ці маскоўцамі, зьнішчываючы такім чынам працу праўдзівых беларусаў.

2) Ворагі нашы, карыстаючыся гэтакай мешанінай, прыпісываюць нашым школам усё, што ім хочацца, ушчыль да бальшавізму (трабскі ксёндз).

3) У вачох сялян (і гэта найважней) мы з гэтай мешанінай выяўляемся нейкімі ашуканцамі, якія гавораць адно, а ў школах робяць другое.

А наагул, рабіць гэтак значыцца, хаваць свой сьцяг пад палу. Гэтакіх дзеячоў можна прыраўнаваць да таго прамоўцы, які гаворыць сваю прамову прад валікім тлумам шэптам. Яго ніхто не пачуець. Гаварыць трэба голасна і цьвёрда. Гаварыць трэба ўсюды—дома, у школе, у полі і ў дарозе. Гаварыць трэба ўсім — і сваім і чужым; і тым, што прымаюць, і тым, што лаюць. Хай са мной не згаджаюцца, хай з мяне сьмяюцца, але хай толькі мяне слухаюць, і я зраблю што трэба. З пракарокаў заўсёды перш сьмяюцца, а потым ужо ім моляцца. І кожны сьвядомы беларус, жадаючы заслужыць імя добрага сына своей бацькаўшчыны, мусіць нясьці свой крыж так, як яго нёс Ісус на Галгофу: пад церніем і бічамі... Вось з гэтакімі поглядамі на нашу працу мы створым тую моц, якая зможаць разбудзіць адвечную летаргію нашых гаротных братоў.

**Вучыцель А. Р.**

## Аб аднэй драме

### або адкрытае пісьмо да беларускіх пісьменьнікаў.

Пачала друкавацца „Няскончаная драма" Францішка Аляхновіча —жывы абраз, немаль што фотографія, жыцьця беларускага пісьменьніка. Можна навет пабажыцца, што Ф. Аляхновіч ані не пагушчае хварбаў, малюючы гэтае жыцьцё.

Перабраўшыся з неаплачанай кватэры на другую й, ня маючы грошаў навет «на гарбату» даць сторажу за перанесеныя рэчы, Васіль (герой драмы) гаворыць да

сваe хворае жонкі, якая толькі-што вывялася з бальніцы з маленечкім дзіцём пасьля радзінаў:

«Вось толькі дрэнная справа: грошаў зусім няма. Як ты ляжала ў бальніцы, я атрымаў за корэктуру за два месяцы наперад. Цяпер сам ня ведаю скуль дастаць»... і г. д.

Вось кардынальная задача для беднага беларускага літэратара, працаваўшага Вільні ў часе нямецкае окупацыі!

Я не хацеў-бы пахваліцца „пабіцьцём рэкорду беднасьці“ Аляхновічавага героя (праўдзівей яго самога-аўтора), але нешта надта аналёгічнае здарылася ў маёй жыцьцёвай практыцы.

Аналёгія вось якая:

Тая самая, нямецкая окупацыя, хаця ня ў Вільні, а ў Менску, тая самая корэктура, хаця не за два месяцы наперад, а за месяц... назад...

Далей аналёгія саўсім канчаецца, а йдзе ўжо поўны контраст.

Ясьней кажучы, корэктаваў я ў 1918 г. месяц, другі, трэйці «першую штодзенную беларускую газэту», якую выдавала арганізацыя «Заранка», дзе быў «душою» справаў і скарбнікам стары абломак расейскага чорнасоценства N. Першыя два месяцы, пакуль яшчэ быў скарбнікам другі „панок“, мне з вялікім лементам, але аднак удалося атрымаць сваю жабрацкую пэнсію. А скончыўшы працаваць трэйці месяц, і пачаўшы чацьвёрты, я да сягоньня не атрымаў свайго мазольнага заробку. Затое меў ад «пана» новага скарбніка, вышэйсказанага N, нічым, апрача сваe беднасьці незаслужаную, вось якую падзяку.

Гэты «кулацкі тып», які прыстаў да нашага руху ў тым самым 1918 г. ад няма чаго рабіць, гэты вядомы наш „беларускі буржуй“, які ніколі не падпісаўся ні на якую беларускую часопісь і напэўна ня купіў ніводнага нумэру беларускай газэты, заявіў мне тады, што *ён са мною ніякіх рахункаў ня мае*, што і запісаў парасейску на паданай мною ў „Заранку“ формальнай заяве аб выплаце мне за месячную працу.

Калі дадаць да гэтага, што жабрацкі мой заробак за корэктуру быў тады адзіным фондам для майго ўласнага й мае жонкі істнаваньня, дык драма можа быць названа... скончанаю.

Я гэтае здарэньне прыводжу не дзеля таго, каб „канчаць“ драму колегі Аляхновіча, не дзеля таго, каб уквечваць, калі так можна сказаць, сваю, можа нікому й ня цікавую, біяграфію, не дзеля таго навет, каб затуманіць сьветлую чыннасьць «дзеяча» N (яго ўсё пры ім застанецца), а дзеля таго, каб заварушыць сярод нашай няшчаснай пісьменьніцкай грамады даўно насьпеўшую думку—папрабаваць самім бароцца з «няскончанымі драмамі» жыцьця свайго; бароцца нічым іншым, як арганізацыяй. Будзе гэта наш профэсыянальны саюз, ці коопэрацыйнае таварыства ўзаемнай дапамогі—назва тут ня грае ролі, але кожнаму зразумела, што, прыйшоўшы да нейкага моцнага аб'яднаньня, мы патрапім ратавацца ад бяды-гора нашых дзён, нашае матар'яльнае недастачы. Можа мы й ня зьлечымся ад яе зусім, але палепшыць благое палажэньне хоць крыху ўжо вялікая справа. Бо гутарка-ж ідзе аб самыя простыя рэчы, а будзенныя чалавечыя патрэбы, якіх не пазбаўлены навет і такі натхненныя народ, як літэратары.

Літэратар-чалавек вышэйшага інтэлекту, з чулаю тонкаю душою, не заўсёды і ня кожны ўмее вясьці брудную жыцьцёвую барацьбу за істнаваньне. Ідэалы сушаць яго мазгі, паднімаюць пад зоры, не даючы глянуць на грэшную зямлю — парахаваць практычныя жыцьцёвыя інтарэсы.

Гэта наагул.

А да гэтага трэба дадаць, што мы пісьменьнікі нацыі, пакуль што, паднявольнае, нацыі поўпролетарскае. Як наш народ, так і мы самі павінны даваць сабе раду самі.

Нашыя палітычныя арганізацыі, на чале якіх інады стаіць і наш брат пісьменьнік, могуць пазваляць сабе, пакуль што, паважныя расходы на «міністраў», вылюшчаных дыплёматаў, місіі, камісіі і г. д., а пісьменьніку няма з чаго заплаціць палюдзку.

Да руху нашага прыстаюць часамі розныя «зухі», нічога супольнага з беларускім народам ня маючыя, апрача смачнага кавалка хлеба, які імі дабываецца яго імем.

Розныя эксплёататары могуць ставіць беларускага пісьменьніка ў фінансавую ад сябе залежнасьць і, захацеўшы, могуць пакласьці яму рэзалюцыю: «Я съ тобой никакихъ счетовъ не имѣю». Ад гэтага ўсяго пахне ня толькі драмаю, а поўнаю «скончанаю» трагэдыяй, бо галоднае цела пісьменьніка тутатка менш церпіць, як чулая, зьняважаная літэрацкая душа.

Праўда, гэтак могуць абходзіцца з беларускім пісьменьнікам толькі адкіды беларускага народу, бо сам беларускі народ, ведама, шануе й вельмі навет сваіх пісьменьнікаў.

Шануе сваіх літэратараў кожны народ. У норвэжцаў гэткія сьветлыя імёны, як Ібсэн, Гамсун, калі не памыляюся, на дзяржаўнай пэнсіі, як слугі народу, нічым ня горшыя за розных каралеўскіх ўураднікаў.

Нам да гэтага, пакуль што, яшчэ не ўдалося дайсьці і вось, праз гэта, мы—беларускія пісьменьнікі—павінны згуртавацца ў дружную профэсыянальную сямью і колектыўна, як усе пролетары сьвету, выступаць у абарону сваіх агульна-чалавечых інтарэсаў.

Справа пісьменьніцкай арганізацы парушалася летась у Менску Янкай Купалаю, але з розных прычын ня была зрэалізована. Быў ужо навет проэкт статуту, які разглядаўся на сходзе ў Купалы мною, Бядуляю і паважаным аўторам «Няскончанае драмы».

Ня маючы... матар'яльнай... магчымасьці прыехаць да Вільні, я гэтым пісьмом зьвяртаюся з просьбаю да ўсіх нашых віленскіх пісьменьнікаў заняцца, пачатаю ў Менску, справаю літэрацкай арганізацыі незабаўна, падаць на зацьвярджэньне ўладаў адпаведны статут і пачаць заціс сяброў, аблажыўшы іх падаткам. На маё зданьне, пры сучасным росьце дарагоўлі найлепей браць з кожнага сябра нейкі процэнт ад яго агульнага месячнага заробку (ня толькі літэрацкага), а пры выплаце гонорару утрымваці гэты процэнт ў літэрацкую касу адразу і г. д.

Гэткім парадкам мы, калі й не ўцячом зусім ад нашых «няскончаных драмаў», дык можа хоць крыху іх лік паменшым, а гэта, пры нашай беднасьці, ужо будзе вялікім плюсам.

і

**Краўцоў Макар.**

10. IV. 1921.

## Пачынаецца з-за Беларусі.

„Орыент“ паведамляе, што Чычэрын прыслаў да Польскага Ураду ноту, ў якой гавора аб нязгоднымі з рыжскай умовай адносінамі Польшчы да ворагаў Сав. Расеі. На тэрыторыі Польшчы творацца банды контр-рэволюцыянэраў: у Несьвіжу знаходзіцца беларускі паўстанчаскі камітэт, у Роўне, Астрозе і Шэпетоўцы фармуюцца атрады Пятлюры і ідзець агітацыя Балаховіча і Перамыкіна.

Кн. Сапега ў сваей ноце не згаджаецца з гэтымі галаслоўнымі зацьвярджэньнямі і, у свой чарод, паказывае на бяспраўнасьць бальшавіцкай агітацыі з боку вайсковай Рады Зах. Фронту з мэтай адарваць ад Польшчы беларускія паветы.

## Штодзенныя весткі.

—·—

*Пятніца*, 22 *красавіка* 1921 *г.*

— БРУСЭЛЬ, 20 красавіка (О.). Сягоньня пачынаецца польска-літоўская конфэрэнцыя.

— Забастоўка горных работнікаў ў Англіі адбіваецца на жыцьці краю: зачыніліся некаторыя фабрыкі, тысячы работнікаў без работы.

— У Чэха-Славакіі пачынаюцца спрэчкі і непаразуменьні паміж чэхамі і славакамі.

— У Амэрыканскай Палаце Дэпутатаў падыймаецца пытаньне аб тым, каб прэзыдэнт Гардзінг ўзяў на сябе пачын выступіць з лёзунгам агульнага разаружэньня народаў.

*Субота*, 23 *красавіка* 1921 *г.*

— Польска - Літоўская Конфэрэнцыя ў Брусэлі адчынілася. Ад Польшчы былі: Собанскі, Лукашэвіч і Арцішэўскі. Ад Літвы: Гальваноўскі, Клімас, Нарушэвіч, Мілош, Клешчынскі, Ерэтас. Згодна з прапазыцыяй старшыні Гюманса агульныя пасяджэньні адкладзены да 6 траўня дзеля разгляду дакумэнтаў за час адсутнасьці праф. Аскеназі. Гюманс у сваей прамове казаў аб патрэбнасьці мірнага разьвязаньня конфлікту.

— Уласьнікі капальняў у Англіі прапануюць стварэньне нацыянальнага камітэту, які устанавіў бы работніцкую плату.

*Нядзеля*, 24 *красавіка* 1921 *г.*

— Міжсаюзная Камісія выказалася за аддачу Польшчы усіх прамысловых і чатырох зямляробскіх паветаў В. Сілезіі. Дзякуючы упорнасьці Нямеччыны проці вымаганьняў Антанты дзяржавы Антанты ўсе больш і больш схіляюцца ў гэтым пытаньні на старану Польшчы.

— Нямецкі Урад просіць прэзыдэнта Амэрыканскіх Злуч. Штатаў Гардзінга, каб ён узяў на сябе пасрэдніцтва у спрэчцы паміж Нямеччынай і Саюзьнікамі. Аг. Вольфа паведамляець, што Гардзінг адмовіўся у гэтым.

— Пасьля пахаваньня б. Нямецкай імпэратрыцы адбылася вялікая манархічная маніфэстацыя.

*Панядзелак*, 25 *красавіка* 1921 *г.*

— У Горадню прыехала Кантрольная камісія Лігі Народаў з мэтай абсьледаваць нэйтральную зону і дзеля згоды з польскім урадам аб чыгуначным руху між Вільняй і Горадняй.

— Фош рыхтуець армію у 100.000 чалавек, дзеля акупацыі Рурскага басэйна.

— Ад кастрычніка ў Чэхаславакіі выйшла з каталіцкага касьцёлу каля 1 мільёну чалавек. Лічба адшчапіўшыхся ксяндзоў даходзіць да 170. У Чэхіі усё больш пашыраецца думка аб стварэньні нацыянальнай царквы.

*Аўторак*, 26 *красавіка* 1921 *г.*

— Бальшавіцкія войскі забіраюць Арменію. Эрывань гарыць. Народ уцекае ад бальшавікоў, якія прысудзілі к сьмерці галоўнейшых прадстаўнікоў быуш. армянскага ураду.

— Улетку у Варшаве адбудзецца чародны зьезд прадстаўнікоў Балтыцкіх дзяржаў,

— У Маскве адбыліся перавыбары у Маскоўскую Раду (цэнтральную?). Выбрана 1538 дэпутатаў, у іх ліку 1241 камуніст, 260 безпартыйных, 17 розных социяліст. партый. Старшыней ізноў выбраны Калінін.

*Серада*, 27 *красавіка* 1921 *г.*

— З Варшавы паведамляюць, што Вітос з усім габінэтам падае ў адстаўку.

— 30 красавіка адбудзецца новая конфэрэнцыя прадстаўнікоў дзяржаў Антанты.

*Чацьвер*, 28 *красавіка* 1921 *г.*

— Калі Вітос выйдзе ў адстаўку, дык на яго месца прапануюць Ратая, або Домбскага.

— Французкі урад патрэбаваў ад Врангеля распусьціць яго армію. Врангель ладзіць апошні прыказ да сваіх жаўнераў.

## Весткі з Савецкай Беларусі.

### Беларускія газэты ў Менску.

Часопісь беларускіх эсэраў „Змаганьне“, якая выходзіла тры разы на тыдню, цяпер бальшавікамі зачынена, а вялікая штодзенная газэта «Савецкая Беларусь», часопісь беларускіх бальшавікоў, выходзіць далей і друкуецца ў такім ліку экзэмпляраў, у якім дагэтуль не друкавалася ніводная беларуская газэта.

### Інстытут беларускай культуры.

Для наладжаньня адчыненьня беларускага ўніверсытэту ў Менску зроблена камісія з прадстаўнікоў — аднаго ад гарадзкога савету, аднаго ад Ц. Б. К. П. Б., аднаго ад Савету прафэсыянальных саюзаў, аднаго ад Уцыка Беларусі й аднаго ад Камісарыяту асьветы. Ужо адбылося першае пасяджэньне камісіі. У адчыненым Беларускім універсытэту з першае пары будзе адчынен Інстытут беларускай культуры.

### Беларускі студэнцкі гурток.

Культурна - асьветная камісія пры Менскім палітэхнікуме ў хуткім часе прыме назву „Беларускі гурток студэнтаў“, які мае з сябе выдзеліць сэкцыю для пазнаньня беларускай літэратуры, гісторыі і інш. У гуртку мець месца да 200 студэнтаў-беларусаў.

### Загранічнае выдавецтва.

У скорым часе маецца выехаць заграніцу камісія па выданьню беларускіх кніг заграніцаю. Камісія будзе складацца з трох чалавек і ў першую чаргу павязе для выданьня каля пятнаццаці рукапісаў. Між гэтымі рукапісамі будуць падручнікі (правапіс—Я. Лёсіка, „Крыніца“—яго-ж, „Гісторыя Беларусі“—Ігнатоўскага і інш., поўныя зборы твораў пісьменьнікаў і песьняроў: З. Бядулі, Ц. Гартнага, Я. Лёсіка і некалькі томаў Я. Купалы).

### Праца Навуковай Камісіі.

Навуковая Камісія па апрацаваньню беларускай тэрміналёгіі пашырае сваю працу. Матэматычная сэкцыя ўжо канчае напісаньне альгебры й задачніка.

### Дзяржаўная бібліятэка.

Дзяржаўная бібліятэка, адчыненая ў Менску, у Юбілейным доме, на Захараўскай вуліцы, папаўняецца ўсё болей і болей кніжкамі. Надоечы прывезена ў бібліятэку шмат цэнных кніжак, купленых у сямьі памёршага беларускага дзеяча Жывапісцава. Так сама ахвяруюцца кніжкі й прыватнымі людзьмі.

Беларускім аддзелам Камісарыяту асьветы ўчынены крокі перад камісарыятам Р. С. Ф. С. Р., каб той дазволіў вымаць з скарбніць па ўсёй фэдэрацыі кніжкі датыкаючыя Беларусі й на беларускай мове.

### Беларускі дэкляматар.

Гатовіцца к друку «Беларускі дэкляматар», у якім адчуваецца вялікая патрэба. Над дэкляматарам працуюць тры беларускія артысты: Т. Сьляжневіч гатовіць палітычную частку, т. Церак—лірычную, а тав. Ждановіч—гумарыстычную.

### Дзіцячыя казкі й гульні.

Збор дзіцячых казак і гульняў апрацоўвае цётка Фальская, як спэцыялістка фрабэлічка. Збор маецца быць гатовым к надрукаваньню яго на будучы сэзон.

### Пасьмертныя зборы твораў Алеся Гаруна й Максіма Богдановіча.

Беларускі пісьменьнік Я. Лёсік працуе над зборам твораў Алеся Гаруна. Я. Дыла зьбірае творы Максіма Багдановіча

для пасьмертнага выданьня іх заграцічным беларускім выдавецтвам.

### Пісаньне падручнікаў.

Па даручэньню Беларускай навуковай камісіі пішуцца беларускія падручнікі. «Тэорыю Славеснасьці» піша Янка Купала, «Гэографію Беларусі» піша Азбужін, «Задачнік» Більдзюкевіч і інш. Падручнікі будуць гатовы праз скоры час і адданы для друкаваньня за граніцаю.

### Курсы беларусазнаўства.

На маючых быць адчыненых пры Народным Камісарыяце Асьветы Беларусі ў травені месяцы бягучага году лектарскіх курсах па беларускай мове, гісторыі літэратуры, геаграфіі й гісторыі, апроч лепшых навуковых мясцовых сіл прымуць удзел у працы дзеля падгатоўкі сярэдніх лектароў так сама навуковыя сілы Маскоўскага ўнівэрсітэту, як напрыклад, прафэсар Пічэта, Янчук і іншыя, якія ўжо даўно працуюць на груньце ўсебаковага вывучэння Беларусі, і прыяжджаюць у Менск дзеля прадаўжэньня сваёй навуковай працы.

Сур'ёзнасьць лекцыяў на курсах патрабуе належачай асьветы, чаму на курсы будуць залічаны толькі тыя асобы, якія скончылі быўшыя сярэднія школы й настаўнікі першай і другой ступені са стажам. Утрыманьне курсантаў забясьпечваецца Народным Камісарыятам Асьветы. (Белроста).

### Культурна-асьветная праца.

(*Гор. Барысаў*).

Клопатамі й патугамі павятовага аддзелу Народнае Асьветы й павятовага палітычна-асьветнага аддзелу адчынена 5 клюбаў і народных дамоў у горадзе й 10 на павеце. Прымаюцца крокі, дзеля пашырэньня сеткі клюбаў. Адчынена 12 бібліятэк на воласьці, а на вёсках 123 хаты-чытальні. Камісіяй па зьнішчэньню няпісьменнасьці адчыняюцца школы. Усе няпісьменныя й малапісьменныя абавязкова павінны пад страхам кары хадзіць у школы.

Да гэтага часу адчынена 5 вячэрніх школ у месьце й 45 на павеце. Сетка школ па зьнішчэньню няпісьменнасьці будзе пашырана да 250. У месьце адчынена 10 школ першай ступені з 1500 вучнямі. У Стара-Барысаве адчынена сельска-гаспадарчая школа, у якой усе месцы запоўнены. Вучням школ першай ступені выдаюцца вячэры. На павеце адчынена каля 150 школ першай і другой ступені а 183 камплектамі, настаўнікаў 150

### Школьнае жыцьцё.

З Бабруйску паведамляюць, што адукацыя ў школах гораду праходзіць пасьпешна.

Лік школ у павеце дайшоў да 427, вучняў да 40.000.

Утвораная агародна садовая камісія ўзялася за працу. Кожнай школе дадзена па дзесяціне зямлі.

Дзейнасьць Ц. К. па зьнішчэньню няпісьменнасьці праходзіць вельмі пасьпешна. Лік школ па зьнішчэньню няпісьменнасьці дасягнуў звыш 200.

У горадзе й павеце налічваецца 6 дзіцячых садоў і 4 дзіцячых прытулкі: у Парычах і Старых Дарогах.

Беларускім пад'аддзелам адчынена ў горадзе беларуская школа II ступені: на павеце 6 беларускіх школ і 4 гурткі. Ва ўсіх школах гораду й павеце ўводзіцца выкладаньне навучаньня на беларускай мове й беларусазнаўства.

Жыдоўскай сэкцыяй Народнай Асьветы адчынена 10 школ у горадзе й 15 ў павеце.

Будуць адчынены клюбы й народныя дамы. (Белроста).

## БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

### Ліст ад беларускіх паўстанцаў 1-ае Слуцкае Брыгады стральцоцоў войск Б. Н. Р. з Беластоцкага канцэнтрацыйнага лагера.

Паважаны пане рэдактару!

Вельмі просім памясьціць у газэце „Наша Думка“ ніжэйнапісанае.

Ужо тры з лішнім месяцы мы, Слуцкія паўстанцы, сядзім за дротам у чужацкай няволі, голыя, босыя, абадраныя і паўгалодныя. Да гэтага часу мы ня ведаем, дзе знаходзіцца „Глава нашага паўстаньня“—Рада Случчыны і што робіць яна дзеля нашага вызваленьня? Вельмі цікава ведаць, дзе і што робяць Старшыня Рады У. Пракулевіч і палітычны камісар П. Жаўрыд? Можа яны будуць ласкавы, пачуўшы наш голас праз «Нашу Думку», даведаюцца нас і тым падтрымаюць наш дух, бо ўсё-такі яны правадыры нашае ідэі.

Паўстанцы.

### Сьвята Герберта Гувэра.

21-га красавіка ў Вільні сьвяткавалі імяніны вядомага амэрыканіна Герберта Гувэра, арганізатара амэрыканскай помачы дзяцём Эўропы. Вельмі урачыста сьвяткавалі гэты дзень і беларускія школы ў Вільні. Прамоўцы горача віталі п. Уокера, кіраўніка амэрыканскага камітэта ў Вільні.

### Аб карэспандэнцыі вучыцеля А. Р. ў № 15 „Н. Д.“.

Навет найбольш сьвядомыя і актыўныя беларускія працаўнікі на правінцыі дагэтуль нічога ня ведалі аб арганізацыі амэрыканскіх камітэтаў помачы дзяцём, аб тым, што ў Вільні ёсьць беларускі прадстаўнік у гэным камітэце і т. д. (гл. артыкул вуч. А. Р. ў № 15). Тым ужо вінавата ня толькі панская зласьлівасьць, на якую мы валім свае беды, але вінавата наша ўласная неарганізаванасьць, незьвязанасьць, неасьвядомленасьць, вінавата нядбальства нашага нацыянальнага камітэта і маладзеяльнасьць нашых прадстаўнікоў у камітэце помачы дзяцём. Гэткая важная справа, як помач дзяцём, быццам нас не закранула зусім, і мы здаволіліся тым, што амэрыкане і з беларусаў некага назначылі там, гдзесьці, сядзець на паседжаньнях. Чытаючы ў газэтах аб паседжаньнях камітэту помачы, яны ніколі не знаходзілі там голасу беларусаў і бачылі, што беларускія інтарэсы трактуюцца там нараўне з інтарэсамі тутэйшых расейцаў, быццам запраўды ў Беларусі беларусаў столькі-ж, колькі расейцаў... Навет ліцьвіны куды болей змагаліся і працавалі у гэтай справе не гаворачы ўжо аб жыдох, якія здолелі вырваць свой кусок. Толькі беларусы нічога не рабілі. Тымчасам, ні ліцьвіны, ні жыды ня елі ў прыфрантовай паласе травы, як яшчэ і цяпер ядуць няшчасныя беларускія жыхары (гл. допісы у «Кгупісу» і «Нашай Думцы»). Ня дзіва, што пры такой рабоце з нашага боку вучыцелю А. Р. ў Вайгянах (Багданаве) кажуць: „Камітэт не беларуска-амэрыканскі, а польска-амэрыканскі, дык вам астаткі, а можа й нічога“. Калі так кажуць, а нашы прадстаўнікі ў камітэце маўчаць і нічога ня робяць на правінцыі (аб Вільні ня ведаю), дык будзем есьці траву, ведаючы, што беларусы—гэта не палякі і амэрыканскіх дароў ім не палагаецца. Будзем спакойна ўзірацца, як беларусаў-каталікоў перарабляюць, на палякоў, між іншым, тымі-ж амэрыканскімі дарамі. Дары гэтыя дае Польшча, кажуць нам, і даець іх палякам, а не каму іншаму, і камітэт польскі, а не беларускі... Хто-ж там ведае, што і беларускім пачаткавым школам павінны даваць дакармленьне? Ніхто аб гэтым нічога ня кажа, не паведамляе. І хто-ж будзе бараніць нашы правы на амэрыканскія дары, калі мы самі нічога ня робім? П. Уокер пабеларуску ня ўмее, дык і думае, што беларусаў тут толькі жменька і крыўды ім ніякой няма. А мы, дастаўшы лыжку заціркі, баімося ці ня хочам сказаць, што за гэтую лыжку беларусам каталікам, душу адбіраюць, а праваслаўным дзяцем беларусам, як «маскалям», прыходзьцца траву есьці і з голаду пухнуць. Хоцьбы прадстаўнік «маскалёў» у камітэце паклапаціўся аб іх.

Вучыцель.

### Помста за паўстаньне.

(*Ад нашага карэспандэнта*).

У вёску Грыцэвічы Несьвіжскага павету 19 красавіка нейкім чынам зьявіўся атрад чырвоных, салдаты якога знайшлі некалькі папсаваных гранат пад падлогаю тае клеці, дзе зьмяшчаўся вайсковы склад Слуцкае паўстанчаскае брыгады. За гэта чырвонаармейцы забралі 28 пажылых мужчын, бо маладыя паўцякалі. Гэтых 28 асоб чырвоныя пасьпешна пагналі ў м. Семежава. У вёсцы Едчыцы чырвоныя запалілі чатыры хаты за тое, што гаспадары гэтых хат хавалі бальшавіцкіх дэзэртыраў.

### Беларускі рух у Смаленску.

(*Ад нашага карэспандэнта*).

4 красавіка 1921 г. у Смаленску адбыўся сход чырвонаармейцаў 10-га аддзельнага стралковага чыгуначнага батальёна. На гэтым сходзе чырвонаармейцы пастанавілі зьмяніць назву «красноармеец» на назву «салдат», усю вайсковую канцэлярыю пастанавілі вясьці на беларускай мове, у тыя гадзіны, каторыя «палітрукі» займалі агітацыяю, пастаноўлена займацца чытаньнем кніжак на роднай мове. Упрокаў з боку камісараў ня было. Сход зачыніўся з пяяньнем беларускае марсяльезы і гымна.

Трэба адзначыць, што у 10 аддзельным батальёне усе чырвонаармійцы з Менскай і Магілеўскай губ.

### Беларуэкае Культурна-Прасьветнае Т-ва „бацькаўшчына“ ў Латгаліі.

(*Ад нашага карэспандэнта*).

Група беларускіх вучыцялеў гарадзкіх ніжшых школ, гімназый і рэяльнага вучылішча пастанавіла адчыніць ў Дзьвінску Беларускае Культурна-Прасьветнае Т-ва «Бацькаўшчына».

Прыняты устаў Аддзелаў гэтага Таварыства і ужо зацьверджаны ў Латгальскім Вакружным Судзе.

Цікава, што Латгальскі Вакружны Суд прыняў прашэньне і статут Т-ва, напісаныя ў беларускай мове.

Надняx чакаецца адчыненьне Таварыства.

Папярэдняя рэгістрацыя выявіла шмат беларусаў, чакаючых магчымасьці запісацца ў Таварыства. Частка з іх, асабліва ў правінцыі, запісалася ужо ў Рыжскі Аддзел Таварыства.

## Тэатр.

У чацьвер 21 красавіка ў Гарадзкой Залі ў Вільні адбыўся беларускі спэктакль. Была пастаўлена «Птушка шчасьця» Ф. Аляхновіча пад кіраўніцтвам і з удзелам самаго аўтора. Не гаворачы ўжо об артыстычнай гульні п. Ф. Аляхновіча, запраўднага тварца сучаснага беларускага тэатру, трэба адзначыць надта ўдачнае выступленьне нашага новага актора-мастака п. Шчаснага. Будзем спадзявацца, што справа роднага тэатру ўзыйзе, ўрэшце, на добрую дарогу і ў Вільні, дзе яна калісьці і зарадзілася, Пажадаем яшчэ, каб і «Славянскі» хор, у якім пяюць амаль ня выключна беларусы, належна ацаніў-бы сваё культурнае і мастацкае значаньне і зрабіўся-бы для Вільні тым, чым ёсьць для Менску хор Тэраўскага, Пяяньне Славянскага хору выклікае агульнае захапленьне, але беднасьць яго рэпэртуару, асабліва беларускага, *адсутнасьць* размаху ў пастаноўцы і *грамадзкага такту* ў выступленьнях псуюць справу і робяць немагчымым далейшае разьвіцьце...

## Пісьмо у Рэдакцыю.

*Вельміпаважаны пане рэдактар!*

Маем за гонар прасіць Вас не адмовіць надрукаваць нашае пісьмо да чытачоў «Н. Д.».

Мы, маленькі гуртох украінцаў, жывучых ў Італіі і працуючых уласнымі сіламі для пашырэньня знаёмства з украінска справаю ў Італіі, зварочуемся да брато, беларусаў з прапазыцыяй надсылаць да нас усялякі інфармацыйны матар'ял, які мог-бы асьвятляць справу беларускую. У актуальны мамэнт ёсьць вялікай важнасьцю паказаць, што нашы народы маюць сваю літэратуру, сваіх паэтаў, сваю культуру. Мы можам надрукаваць ня толькі артыкулы, але таксама кніжкі популярнага зьместу. З вялікаю ахвотаю будзем мы працаваць для братней беларускай справы, бо мы пэўны, што толькі солідарнае змаганьне прыгнечаных народаў, асабліва беларускага і украінскага, дасьць нам магчымасьць зажыць вольным жыцьцём і знойдзе рэальны водгук сярод заходня-эўропэйскага грамадзянстве.

Просім ува ўсіх справах зварочвацца па адрэсу: Italie Genova, Quarto dei mille Via Piigaruggia, 10. R. Istituto Superiore di Studi Commercia Piofess. V. Scebedev.

З праўдзівым паважаньнем

М. Лыповэцька.

В. Шэбэдів.

## Паштовая скрынка.

**К. Е.** Па усіх адрасох, пададзеных Вамі, „Наша Думка“ у Латгалію пасылаецца. Просьба аб высылцы школьных комплектау перададзена у Школьную Раду. „Гісторыю беларускае літэратуры“ М. Гарэцкага вышле Вам Кнігарня Выдавецкага Т-ва (Вільня, Завальная, 7), дастаушы ад Вас грошы. За прысланы у газэту матар'ял шчыра дзькуем; пішэце часьцей.

**Дык-Дзедю.** Ці-ж Вы ня ведаеце, што верш Ваш зьмешчан у № 15 „Нашае Думкі“? Паведаміце, можа пасылаць вам болей №№ газэты?

## Віленская біржа (гельда).

27 красавіка (апрэля) 1921 г.

| | | |
|---|---|---|
| Царскія 500 р. | 1300 | мар. |
| „ 100 „ | 325 | „ |
| „ дробныя | 110—180 | „ |
| Думскія 1000 р. | 600 | „ |
| „ 250 „ | 500 | „ |
| Кярэнкі | 160 | |
| Доляры | 785 | „ |
| Фунты | 3000 | „ |
| Франкі | 51 | „ |
| Нямецкія маркі | 1280 | „ |
| Осты | 1265 | „ |
| Савецкія у буйных купюрах па 5 і 10 тысяч за кожную сотню | 3 | „ |
| Расчотныя знакі за 100 р. па | 2 | „ |





Рэдактар і выдавец А. Кабычкін. Друкарня Б. Клецкіна, Мала-Стэфанаўская 23.